# Каталёг выстаўкі слуцкіх паясоў беларускага дзяржаўнага музэю.

Красавік 1927 г. г. Менск

БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ МУЗЭЙ.



# КАТАЛЁГ

## ВЫСТАЎКІ СЛУЦКІХ ПАЯСОЎ.

Выдана коштам Беларускага Дзяржаўнага Музэю.

МЕНСК—1927.

# ПРАДМОВА.

Сярод прадметаў старадаўняга беларускага мастацтва выдатнае месца займаюць вядомыя Слуцкія паясы. Рознакаляровыя шаўкі, пратканыя сярэбранымі і залатымі ніткамі, складаючы шматкаляровы малюнак з кветак і орнамэнтаў, цешаць і лашчаць узрок глядача, выклікаюць вялікае захапленьне аматара. Усходнія мотывы, пакладзеныя спачатку ў аснову вырабу Слуцкіх тканых паясоў, пад уплывам мясцовых асаблівасьцяй, паступова набываюць беларускі характар.

Усё гэта, разам узятае, выклікае падвышаны інтарэс з боку шматлікіх наведвальнікаў Б. Д Музэю да слуцкіх паясоў, як даўнейшай мясцовай вытворчасьці.

У сувязі з папаўненьнем колекцыі Слуцкіх паясоў, сярод Супрацоўнікаў Б. Д. Музэю ўзьнікла думка аб організацыі выстаўкі іх, з мэтаю азнаёміць шырокія масы насельніцтва з гісторыяй вытворчасьці Слуцкіх паясоў і іх орнамэнтыкі. Думка гэтая была падтрымана Саветам Музэю і зацьверджана Галоўпрафасьветаю.

Для непасрэднай працы па організацыі і ўпарадкаваньні выстаўкі была выдзелена Камісія ў складзе Дырэктара Музэю П. В. Харламповіча і Навуковага Супрацоўніка Музэю А. М. Панова.

На жаль, Б. Д. Музэй у сваіх зборах ня мае выдатных узораў Слуцкай ткацкай вытворчасьці, ці цэлых паясоў. Амаль уся колекцыя складаецца з частак паясоў, парэзаных бязлітаснай рукой на часткі, з якіх сшыты царкоўныя ці касьцельныя адзеньні. Часткова гэтыя экспонаты паступілі з бышага ў Менску Царкоўна-Гістарычнага Камітэту, часткаю з Менскай

Мытніцы, з Гістарычнага Музэю ў Маскве і з Дзяржаўнага Музэйнага Фонду.

Памянёную колекцыю, бясспрэчна, у належнай ступені могуць дапоўніць зарысоўкі і фотографіі Слуцкіх паясоў, якія захоўваюцца ў Эрмітажы, ў Расійскім Музэі ў Ленінградзе, і ў Смаленскім Дзярж. (б. Тэнішаўскім) Музэі. Частка зарысовак і фотографій пазычаны на час выстаўкі Сэкцыяй Беларускага Мастацтва Інстытуту Беларускае Культуры, іншыя належаць Б. Д. Музэю. Да ілюстрацыйнага матар'ялу аднесены портрэты XVIII ст., на якіх яскрава відаць, як даўней насілі Слуцкія паясы.

У заключэньне Музэй лічыць патрэбным выказаць падзяку М. М. Шчакаціхіну за яго дапамогу і каштоўныя паказаньні па організацыі выстаўкі.

П. Харламповіч.




# СЛУЦКІЯ ПАЯСЫ.

Пояс наогул, як прыналежнасьць адзеньня, вядзе свой начатак з дагістарычных часоў. Вусныя паданьні культурных народаў, якія сьведчаць аб агульным ужываньні пояса, адсоўваюць яго пахаджэньне ў глыбіню вякоў. Аб тым-жа гавораць і археолёгічныя раскопкі. Этнографія нават захавала на ўзорыстых паясох орнамэнты, якія свой пачатак вядуць ад часоў дагістарычных. На ўсім працягу гісторыі мы бачым, на падставе захаваных помнікаў, ужываньне пояса, як у вайсковым, гэтак і ў хатнім жыцьці, ня толькі простымі людзьмі, але і вышэйшымі клясамі—панамі ды князьзямі.

Калі селянін клапаціўся, галоўным чынам, аб практычнасьці пояса і вырабляў яго з матар'ялаў, якія былі ў яго пад рукамі—лёну ды воўны,—то багацейшыя клясы ў даўнія часы рабілі сваe паясы з матар'ялаў больш каштоўных: шоўка, серабра, золата і зварочвалі вялікую ўвагу на прыгожасьць працы. Звычай тых часоў патрабаваў мець асобныя паясы на

розныя выпадкі жыцьця—вясёлыя і сумныя, згодна з чым мяняўся колер пояса. Некаторыя заможныя людзі ўкладалі большую частку свайго капіталу ў набыцьцё паясоў. Не дарма ў XVI—XVII сталецьцях жартавалі з тагочаснага франта, што ў яго ўся маёмасьць у паясох.

Па захаваных малюнках (абразы, партрэты, ілюстрацыі) і гэтак званых рэестрах баярскага і княскага адзеньня (іначай зваліся „шатні“) магчыма даведацца аб матар‘яле і колеры паясоў таго часу: паясы бывалі белыя, блакітныя, чорныя, чырвоныя, рабіліся яны з шоўка ці каштоўнай кашамірскай воўны і часта былі пратканы золатам. Апроч паясоў мясцовай работы ў рэестрах сустракаюцца назвы—„пояс турэцкі“, „хінскі“, „пэрсідзкі“, якія набываліся шляхам гандлёвых зносін з усходам.

Да канца XV стал. насілі пераважна скураныя паясы, аздобленыя толькі мэталічнымі накладкамі (пласткамі і прыладамі для зашпіляньня). Пазьней пачалі ўжываць розныя ваўняныя, а таксама аксамітныя паясы. Зьяўляюцца паясы пратканыя золатам, але гэтыя, так званыя „літыя“ паясы (гл. аб іх ніжэй), пашыраюцца сярод магнатаў, шляхты і, часткова, мяшчанства, разам з узорным кунтушам, толькі ў апошняй чвэрці XVII сталецьця. Звычайным дадаткам да туалету шляхты яны робяцца ў XVIII стал. Дастаўляліся гэтыя паясы, галоўным чынам, з Пэрсыі і Турцыі праз армянскіх купцоў; цана іх была розная: ад 4-х да 500 дукатаў кожны (дукат у даваенныя часы—3 залатыя рублі).

Спосаб нашэньня паясоў—вышэй ці ніжэй, шырэй, ці вужэй, проста, ці на бок—залежаў ад моды, ад пары году, ад розных абставін—нарэшце-ж ад манеры і прызвычаенасьці ўласьніка. Падпяразваліся звычайна паверх кунтуша 2 ці 3 разы; вузел завязваўся сьпераду, а канцы роўнай даўжыні падкладалі пад пояс і спушчалі па баках.

Значнае пашырэньне моды на паясы ўсходняга вырабу дапамагала, перш за ўсё, разьвіцьцю гандлю гэтым таварам, а далей выклікала зьяўленьне мясцовых майстроў, якія стараліся выпрабляць патрэбныя ў той час паясы. Бязумоўна, прысутнасьць гэткіх майстроў, прынамсі у вялікіх местах таго-

часнай Рэчы Паспалітай, і дала князю Радзівілу думку і магчымасьць заснаваць вядомую слуцкую фабрыку паясоў.

Зьмяшчалася фабрыка ў Слуцку на вялікім пляцы, дзе цяпер Шырокая вуліца.

Уласна кажучы, росквіт фабрыкі і выраб славутных паясоў пачынаецца з 1758 г., калі кіраўнікам—дырэктарам фабрыкі зрабіўся Ян Маджарскі (армянін, родам з Стамбула; па іншых вестках—Вэнгерац, які жыў доўгі час палоньнікам у турак).

24-го студзеня 1758 г. кн. Міхал-Казімір Радзівіл, ваявода Віленскі, зрабіў з Маджарскім умову аб заснаваньні ў м. Слуцку „фабрыкі пэрсідзкай". Па гэтай умове Маджарскі абавязаўся, згодна распараджэньняў князя, вырабляць усялякія тканіны—„макаты" (кілімы) „дывдыкі" (каберцы або каверцы), паясы з асобамі, цыфрамі, золатам, шоўкам, паводле дадзенага рысунку. Апроч таго, Маджарскі павінен быў дасканала вывучыць хлопца гэтай рабоце пэрсідзкай. Контракт быў сьцьверджаны подпісамі князя і Маджарскага (подпіс апошняга паармянску).

Работнікамі на фабрыцы былі мясцовыя беларусы—сяляне з пад Слуцку і Слуцкія мяшчане. Фабрыка мела 24 варштаты, на якіх выраблялася каля 200 паясоў у год, цаною ад 5 да 50 дукатаў кожны. Але гэтая колькасьць паясоў была, пэўна, толькі заказам князя; фактычна вытворчасьць была колькасьцю значна больш. Справа ў тым, што ў контракце было агаворана: калі ня было працы па загадах палацу князя, Маджарскі меў права з сваіх матар'ялаў вырабляць паясы, ці іншыя artis suae (сваяго мастацтва) працы на сваю карысьць, г. з. выконваць і прадаваць вырабы. Маджарскі, як паказваюць яго далейшыя рахункі з князем, шырака карыстаўся гэтым правам.

Паясы ткаліся з шоўку, золата ці серабра. Шоўк, золата, серабро выпісваліся з Данцыгу; шнуры-ж і ніткі былі мясцовай Слуцкай вытворчасьці.

Высокія якасьці, якімі адзначаліся вырабы Слуцкае фабрыкі, забясьпечвалі ім шырокі збыт; фабрыка была закідана заказамі, і Маджарскі хутка разбагацеў. Так у 1773 годзе ён бярэ ў заставу ў Радзівіла двор Сяльцы каля Слуцку, за 30000

залатых; а ў 1776 г., калі некалькі пахіснуліся грашовыя справы князя, ён бярэ ўжо ў арэнду і Слуцкую фабрыку за 10000 залатых штогоднага выплату; пры гэтым яму аддана права наймаць і звальняць рабочых, накладаць на іх кары і г. д.,—словам, Маджарскі становіцца поўнапраўным гаспадаром фабрыкі.

Вытворчасьць на фабрыцы к гэтаму часу значна пашырылася: апроч паясоў тут выраблялі і іншыя часткі адзеньня: лускаватыя тканіны для жаночых сукняў, камізэлькі, жаночыя кашалькі, цясёмкі і пад. Паясы гэтага пэрыоду па пышнасьці і багацьці орнамэнту, бліску мэталёвых пераліваў і харастве фарбавых узораў прадстаўляюць запраўды вытворы мастацтва.

Калі памёр Ян Маджарскі, няма дакладных вестак; апошні документ на імя Яна вызначаны 1780 годам; далей документы адрасуюцца на імя яго сына—Лявона, якому Ян перадаў кіраваньне фабрыкай.

У час свайго дырэктарства сын Яна Маджарскага так разбагацеў, што у 1792 г. ён становіцца шамбэлянам (камергэрам) пры двары караля Станіслава-Аўгуста.

Далейшы лёс фабрыкі зьвязаны з агульным палітычным становішчам Рэчы Паспалітай, якое не магло спрыяць разьвіцьцю фабрыкі. Рыхтаваліся другі і трэці падзелы Польшчы; сярод магнатаў і паноў вынікалі нязгоды, барацьба партый. Справы фабрыкі пры гэтым становішчы дзяржавы пахіснуліся. Лявон Маджарскі паведамляе князя праз свайго ўпаўнаважанага, што з прычыны палітычнага неспакою фабрыка прышла ў поўны заняпад, і ён ня можа выплачваць па 10000 залатых штогоднае арэнды. Вытворчасьць на фабрыцы спачатку была скарочана напалову, а ў 1792 годзе і цалкам спынілася. Пачаліся разрахункі па арэнднаму контракту, якія працягнуліся аж да 1807 году, калі фабрыка перайшла ў непасрэднае загадваньне Радзівіла.

Кіраваньне фабрыкай было даручана князем ранейшаму майстру Барсуку, які працаваў на фабрыцы ад адчыненьня яе пры Маджарскім і стаяў пры першым варштаце. Фабрыка функцыянавала да 1814 году, але ў гэты час характар яе вытворчасьці стаў іншым. Справа ў тым, што пасьля далучэньня Беларусі да Расіі забаронена было насіць кунтушы,

якія лічыліся выключна польскаю вопраткаю, і дзеля таго патрабаваньне на паясы спынілася. Фабрыка перайшла на вырабы тканін для царкоўных і касьцёльных прыбораў і, як мізэрную астачу даўнейшага мастацкага вырабу, ткала паяскі для яўрэяк (так званыя załóżki); паяскі гэтыя, пратканыя золатам, былі ўдоўжкі каля 27 см., ушыркі 11 см.

Загад расійскага ураду, якім забаранялася яўрэйкам насіць старадаўнія ўборы, быў сьмярцельным ударам фабрыцы, і ў 1844 годзе Слуцкая „пэрсіярня“ скончыла сваё існаваньне.

Прыбытковасьць Слуцкае фабрыкі ў пэрыод яе росквіту пабудзіла некаторых магнатаў тагочаснай Польшчы заснаваць такія-ж фабрыкі ў сваіх маёнтках. Узьнікае цэлы шэраг ткацкіх фабрык, дзе таксама выраблялiся і паясы, ня толькі ў карэннай Польшчы (у Кабылках, Ліпкаве—абедзьве каля Варшавы,—у Кракаве), але і на абшарах Беларусі, як напрыклад у Гародніцы і Ласосьне—каля Горадні, у Рожаньне—Наваградзкага павету, у Несьвіжы і інш.

Кабылкаўская фабрыка была заснавана ў 1782 годзе нейкім Салімондам—ткачом з Ліёну (Францыя) і ткала паясы з орнамэнтам францускім. Калі гэтая фабрыка перайшла ў 1790 г. к новаму ўласьніку Філіжану, былы кіраўнік фабрыкі Якуб Пасхаліс адчыніў каля Варшавы ў Ліпкаве ўласную фабрыку паясоў.

Пасхаліс, як і Маджарскі, быў армянін (родам з М. Азіі). Заснаваная ім фабрыка хутка разьвіла сваю працу, і паясы, якія яна вырабляла, атрымалі значнае пашырэньне ў Польшчы.

У нагароду за працу кароль даў Пасхалісу ў 1791 г. годнасьць шляхціча, з прозьвішчам Якубовіч і гэрбам, які прадстаўляў вялікоднага бараньчыка з чырвонаю харугваю на зялёным полі.

Паясы Пасхаліса адрозьніваюцца ад філіжанаўскіх тым, што апошнія, як сказана, маюць францускі орнамэнт (дакладней—часу Людовіка XVI), першыя-ж захавалі старажытную стылізацыю ўсходняга тыпу.

Кракаўская фабрыка слуцкіх паясоў была закладзена Маслоўскім у 1787 г і існавала нядоўга (некалькі гадоў); паясы гэтай фабрыкі далёка ня маюць тэй прыгожасьці працы,

якою вызначаюцца ўласна слуцкія паясы. Фабрыкі каля Горадні—у Гарадніцы і Ласосьне выпрацоўвалі паясы двохбаковыя: адзін бок быў чырвонага колеру, другі жа—зялёнага. Былі і ў іншых мясцох фабрыкі, аб якіх вядомы толькі іх назвы; але ніводная з іх не дасягла тэй дабротнасьці выпрацоўкі і багацьця малюнку, якімі адзначаецца фабрыка слуцкая.

У дасьледваньнях польскіх пісьменьнікаў па даным пытаньні недарэмна Слуцкая фабрыка называецца „найслаўнейшаю ў народзе"; яна зьяўляецца першаю сярод іншых фабрык таго-ж тыпу ня толькі часам заснаваньня, але галоўнае—тым разуменьнем прыгожага і мастацкім выкананьнем, што выявілі майстры-беларусы ў сваіх вырабах, якія ў сучасны момант атрымалі сусьветнае прызнаньне.

Слуцкія паясы, таксама як і вырабы іншых фабрык, ня мелі строга азначанай велічыні; нават вырабы аднэй і тэй-жа фабрыкі былі неаднальковы па разьмерах.

Напрыклад на Слуцкай фабрыцы паясы вырабляліся даўжынёю ад 294 см. да 491 см. і шырынёю ад $29^1/_2$ см. да $41^4/_{10}$ см. Таксама і на іншых фабрыках (Кабылкаўскай, Пасхаліса).

Што датычыць орнамэнту, то трэба сказаць, што ён таксама быў неаднальковы, як і разьмер, ня толькі па розных фабрыках (напрыклад—францускі на паясох фабрыкі ў Кабылках), але на аднэй і тэй-жа ў розныя пэрыоды яе існаваньня.

Так, на Слуцкай фабрыцы ў першыя часы выраблялі паясы з рысункамі чыста пэрсідзкага стылю, і рысункі слуцкіх паясоў былі копіямі рысункаў пэрсідзкіх. Але хутка да іх пачалі далучацца мотывы мясцовага характару. Паясы другога дзесяцілецьця існаваньня фабрыкі маюць ўжо асаблівы стыль, які чым далей, тым больш ухіляецца ад ламаных пэрсідзкіх ліній і высоўвае на першы плян кветкі мясцовай флёры. Самымі ўлюбёнымі кветкамі былі васількі, або валошкі, і чырвоныя гвозьдзікі.

Агульны выгляд паясоў прадстаўляе доўгую паласу з фонам (полям) у сярэдзіне і дзьвюма бакавымі палоскамі, па якіх праходзіць як-бы гірлянда з лісьцяў і кветак. Фон зьяўляецца як-бы нясконачаным—бывае падобен лусцы карпу, нагадвае

накідкі, гарошкі, ці затканы папярочнымі палоскамі, аддзеленымі адна ад аднэй. Гэтыя палоскі бываюць ці аднакаляровыя, ці запоўнены геомэтрычным або расьлінным орнамэнтам На канцох паясоў бываюць прадстаўлены красуючыя дзеравы, стылізаваныя галіны з кветкамі, букеты, перавязаныя істужкай, пучкі кветак, якія вырастаюць з вазонаў. На абодвых канцох поясу знаходзяцца даволі шырокія (10 і больш см.) сярэбраныя, залатыя ці шаўковыя махры.



Асаблівасьцю ўсіх паясоў была іх двохбаковасьць з кветкамі рознай афарбоўкі, дзеля чаго кожны бок мог быць правым па жаданьні. Тэхнічна гэта атрымоўвалася праз гэтак званую падвойную тэхніку, г. з. дадатковую аснову. Часам паясы бывалі чатырох-баковыя, калі кожны бок дзяліўся на дзьве рознакаляровыя паловы.

Насілі звычайна паясы складзенымі ўдоўжкі на палову, дзеля чаго выходзіла чатыры паасобныя паясы з рознаю афарбоўкаю, адпаведна выпадку. Чорная палова зьяўлялася жалобнаю, другая з яскравымі кветкамі—для шлюбных і іншых ўрачыстых сходаў.

---

Памянёныя вышэй гэтак званыя „літыя“ паясы, г. з. як-бы адлітыя з мэталю, вытканы з залатых і сярэбраных нітак, але аснова іх шаўковая, па якой так часта паложаны мэталічныя ніткі, што аснова ня была пад імі відна; у выніку паясы выглядалі як бы зробленыя з мэталю, ці літыя. Апроч таго, гэтыя паясы пасьля тканьня былі выпрасаваны, ці ўласна пракатаны, сьледам чаго масыўнасьць мэталю яшчэ болей кідалася ў вочы і зьяўляўся той асаблівы бліск, якім выдзяляюцца Слуцкія паясы. Пракатваньне гэта (ці магляваньне) рабілася ў Слуцку на асобных мэталічных катках, якія Ян Маджарскі ўтайку прывёз часткамі з Канстантынопалю.

---

Згодна агульнаму звычаю тагочаснай прамысловасьці, Слуцкая „пэрсіярня“ адзначала свае вырабы асобнымі напісамі. У першыя гады яе існаваньня гэтакім адзначэньнем зьяўлялася вытканая назва фабрыканту—Ioannes Madżarski, якая зьмяшчалася ў кутках абодвух канцоў поясу; часам да гэтага дадавалася Me fecit Sluciae, ці каротка Sluck. Каля 1780 г. зьяўляюцца на паясох напісы Кірылаўскімі літарамі: в граде Слуцке, ці Лео Мажарскій. Часам адзначэньне зьмяшчалася ў чатырох кутках канцоў паясоў і складалася з дзьвюх літар. F. S., ці разьмешчаных гэтак—F S.

Першыя азначэньні (цэлымі словамі—славянскімі, ці лацінскімі літарамі) сустракаюцца на паясох, якія маюць асаблі-

васьці, адбіваючыя ўплыў Усхода; апошнія-ж азначэньні—літарамі F. S. (у розных становішчах)—на тых, якія набліжаюцца да тыпу заходняга.

Паясы Пасхаліса (Ліпкаўская фабрыка) маюць марку—надпісы: ці P. J., г. з. Paschalis Jakubowitcz, ці P. I. з малюнкам у чатырох кутках бараньчыка з харугваю, ці толькі Paschalis, ці ўрэшце—Paschalis me fecit.

---

У заключэньне некалькі слоў аб лёсе слуцкіх паясоў і значэньні іх у гісторыі беларускага мастацтва.

Слуцкія паясы былі ацэнены па іх вартасьці, а галоўнае зрабіліся прадметам зьбіраньня і хаваньня ў Музэях ледзь у другой палове XIX стаг. Да таго часу паясы, якія хаваліся ў сем'ях (як сямейная каштоўнасьць), перадаваліся нярэдка ўласьнікамі ў касьцёлы, дзе, як паказваюць некаторыя з прадстаўленых на выстаўцы, перараблялііся на прыбіраньне духавенства. Мала гэтага, паясы былі прадметам гандлёвых умоў, дзеля таго што ў іх цанілася золата і серабро. Паясы паліліся, і зьбіраўся каштоўны мэталь (у больш каштоўных паясох бывала 2 ф.).

Але цяпер гэта ўсё адашло ў краіну паданьня З вялікаю стараннасьцю хаваюцца нямногія экзэмпляры Слуцкіх паясоў амаль у кожным музэі Эўропы.

У Беларусі, якая была іх родным краем, неабходна прыняць усе меры, каб маючыяся на яе абшарах экзэмпляры захаваць на далейшы час. Бо паясы Слуцкай фабрыкі зьяўляюцца адным з памятнікаў старой мастацкай вытворчасьці. Гэты памятнік ня толькі ўтвораны на абшарах Беларусі, але ўтвораны як раз тымі сялянамі і мяшчанамі, якія працавалі на фабрыцы Маджарскага

Чым была фабрыка ў пачатку існаваньня? Гэта была, як яе ў той час называлі, „пэрсіярня“, на якой выраблялі толькі па мадэлях пэрсідзкіх. Прайшло некалькі гадоў, і стыль орнамэнту зусім зьмяніўся.

У пачатку другога дзесяцілецьця мы бачым у композыцыі орнамэнту наяўнасьць элемэнтаў мясцовай расьліннасьці. Гэта

новая композыцыя і ўтварыла фабрыцы назву „найслаўнейшай“, а поясам шырокае распаўсюджаньне.

Так, вывучыўшыя тэхніку працы беларусы праявілі сваю вытворчасьць. Аб уплыве заходня—эўропейскага, тым больш польскага мастацтва, тут ня можа быць гутаркі. Гэта была вытворчасьць народная—беларуская. З дзіўным чуцьцём мастацкага прыгоства працаўнікі на варштатах адкінулі няпрыемныя для эўропейскага погляду ламаныя лініі ўсходняга орнамэнту, унеслі новае з мясцовай расьліннасьці і злучылі гэтыя два элементы ў гармоніі тонаў і фарб, прыгожасьць якіх заўжды будзе напамінаць аб месцы іх зьяўленьня

„В ГРАДЕ СЛУЦКЕ“ [1])

Ал. Паноў.

---

[1]) Па характару гэтага выданьня, у вышэйзьмешчаным нарысе даны толькі кароткія зьвесткі аб Слуцкай і іншых фабрыках, якія ткалі паясы. Хто цікавіцца гэтым пытаньнем, можа знайсьці больш поўны адказ у наступных выданьнях (якімі карыстаўся і аўтар нарысу):

1. Emman. Swiejkowski, Zabytki dawnego polskiego przemysłu artystycznego, w Krakowie 1902.
2. Власт, Слуцкія паясы [Крывіч, № 1 (7) 1924 г.]
3. Ks. Łongin Żarnowiecki, Historya tkanin jedwabnych, Kijów, 1915.
4. В. Верещагин, Старый Львов (ж. Старые годы, 1915 г., апр.—май).
5. Al. Jelski, Wiadomośź histor. o pasiarni Radziwił. w Słucku,—w Krakowie 1894.

# I. Паясы Беларускага Дзяржаўнага Музэю.

## А. Паясы Слуцкага вырабу.

1. (№ 5688[1]). Пояс з надпісам у двох кутках—Słuck.
Частка (канец) поясу, ушыркі 34 см.
Аснова залацiста-серабрыстая, на якой зьмешчаны 2 стылізаваныя букеты з розных кветак. На бакавых крайках—дробны расьлінны орнамэнт; на ніжняй больш буйны. Контуры кветак чорныя.

2. (№ 5688[2]) Пояс з надпісам у двох кутках Słuck.
2 часткі поясу, сшытыя; ушыркі 35 см. Фон залаты, на якім 2 букеты; кветкі—роза і гвозьдзікі, сымэтрычна зьмешчаныя На крайках галоўнай і ніжняй—гірлянда з стылізаваных кветак.
Кавалак абшыты з 2 бакоў крайкай з іншага поясу (фон залаты, кветкі сіняга і чырвонага колеру).

3. (№ 6713[2]) Пояс з надпісам у двох кутках Słuck.
Кавалак на канцы абрэзаны; удожкі—218 см, ушыркі—36 см. Фон залаты, на якім папярочныя палоскі з расьлінным і геомэтрычным орнамэнтам. На канцы 2 стылізаваныя букеты. Удоўж па баках ідуць крайкі з расьлінным орнамэнтам. На адным канцы бахрама.

4. (№ 5688[3]) Пояс з надпісам у кутках F. S.
Частка з 2 кавалкаў.
Фон залаты, на якім 2 сымэтрычна зьмешчаныя галіны. Бакавая крайка ў 2 фарбы, з расьлінным орнамэнтам, таксама як і ніжняя крайка.
(Контураў чорным няма).

5. (№№ 5684[1] і 5685[1]) 2 кавалкі, пераробленыя ў каталіцкае царкоўнае адзеньне („стола“). Апрацоўка і малюнак абодвых кавалкаў аднолькавыя. Фон залаты і сярэбраны, па чарзе; таксама і орнамэнты: на вузкіх палосах—геомэтрычны, на шырокіх—расьлінны.

6 (№ 5685[4]) Кавалкі паясоў, сшытыя ў форме каталіцкае „столы“. Па канцох фон залаты, з яскравым орнамэнтам.

7-а (№ 5683[2]). Частка поясу ў каталіцкім царкоўным адзеньні („орнат“).

Фон палевы, падзелены папярочнымі палоскамі (залат. і сярэбр.) на часткі. З двох бакоў крайка з расьлінным орнамэнтам; фон таксама залаты і сярэбраны. Кветкі палевага і цёмна-зялёнага колеру, лісьці—ясна-зялёныя.

7-б (5683[2]). Частка поясу ў тым-жа адзеньні Фон залаціста-сярэбраны, па якім чырвонымі лініямі абведзена луска.

З боку крайка, фон якой такі самы, як і на поясе, з перарыўным расьлінным орнамэнтам, кветкі—чырвоныя, лісьці—сінія.

8 (3101). Кавалак поясу: палосы—горызантальна чаргуюцца, вузкія і шырокія; на першых фон залаты, орнамэнт—геомэтрычны. На апошніх—фон сярэбраны, орнамэнт—расьлінны і геомэтрычны чаргуюцца.

9 (№ 3100). Кавалак поясу ў форме царкоўнага фартушка—ў палосы; фон неаднальковы; орнамэнт на вузкіх—геомэтрычны; на шырокіх чаргуецца расьлінны і геомэтрычны.

Фон крайкі аднолькавы з сярэдняй часткай.

10 (№ 5684). Падобны да № 7-а; узор крайкі іншы.

11-а-б (№ 5686[2]). Часткі поясу (у форме пакрыцьця на келіх).

Фон залаты, на якім стылізаваная кветка. З абодвых бакоў крайка з такім самым фонам і расьлінным орнамэнтам. Кветкі—блакітнага і блёкла-ружо-

вага колеру; абведзены чорным; на другой—2 стылізаваныя галінкі; тон палевы і блакітны.

12 (№ 6652). Гарсэтка (яўрэйскае жаночае адзеньне). Фон залаты з чырвонаватым адлівам, па якім у шахматным парадку разьмешчаны чырвоныя кветкі, з зялёнымі лісьцямі.

13 (6745[1]). Кавалак поясу з надпісам F S; шырыня 29$^1/_2$ см. Пояс у палосы, прычым палосы з крэмавым фонам і расьлінным орнамэнтам ідуць праз усю шырыню поясу; меншыя палосы чырвонага і сіняга колеру; на канцы пояса фон залаты і на ім 2 букеты. Крайка з бакоў і ўнізе мае фон залаты, орнамэнт расьлінны. Ёсьць бахрама.

## Б. Паясы іншых фабрык.

14 (№ 5683[1]). Часткі поясу, які быў разрэзаны і сшыты потым тымі бакамі, дзе крайка (у сучасны момант у каталіцкім царкоўным адзеньні) Фон залаціста-сярэбраны, на якім чаргуюцца палосы—з орнамэнтам—лілёва-шэрым і залаціста-сярэбраным (па чырвоным фоне). Фон крайкі такі самы, орнамэнт расьлінны; па канцох 2 букеты шэра-лілёвага колеру. Унізе дзьве літары—P. I. (г. з. Paschalis Jakubowicz, фабрыка Ліпкаўская), і фігуры бараньчыкаў з харугвамі.

15 (№ 5683[1]). Часткі поясу ў тым жа каталіцкім адзеньні. Фон ясна-зялёны; палосы залаціста-сярэбраныя з расьлінным орнамэнтам. Тоны орнамэнту—ружовы, блакітны і зялёны.

16 (№ 3683[3]). Часткі паясоў, сшытыя ў каталіцкае царкоўнае адзеньне („орнат“). Фон чырвоны з чорнымі палосамі з расьлінным орнамэнтам. Тоны орнамэнту—белы, чырвоны, блакітны і залаты.

17 (№ 6713[3]). Пояс шоўкавы, удоўжкі 3 м 51 см., ушыркі 31 см. Фон агульны палевы, на якім чаргуюцца палосы з расьлінным орнамэнтам. На канцох аднолькавыя па форме галінкі кветак.

З усіх бакоў крайка з расьлінным орнамэнтам; на канцох палевая бахрама.

18 (№ 6713[1]) Пояс мае ўдоўжкі 3 м. 17 см. ушыркі 36 см. Фон аднэй паловы (ўдоўжкі) залаты, малюнак— луска, чырвонага колеру; тоны—зялёны і чырвоны; фон другой паловы сярэбраны; такі-ж малюнак толькі залаты; тоны зялёны і чорны. З усіх бакоў крайка з расьлінным (перарыўным) орнамэнтам. Колер крайкі такі-ж самы, што і на прылеглых частках сярэдзіны. На абодвых канцох вянкі з стылізаваных гвозьдзік; па канцох-бахрама.

19 (№ 5686[3]). Частка поясу ў квадратовай форме пакрыцьця на келіх. Фон жоўты, пасярэдзіне стылізаваны букет кветак (на гары гвозьдзікі, усярэдзіне і з бакоў—розы).

20 (6745[2]) Пояс шаўковы бяз надпісу. Даўжыня 2 м. 54 см., шырыня 69 см. У палосы, якія чаргуюцца—больш ясныя і цёмныя, з стылізаваным расьлінным орнамэнтам 3 колераў; на канцох на крэмавым фоне 4 букеты.

21 (6475[3]). Такі-ж пояс. Даўжыня 2 м 80 см, шырыня 39 см. У палосы, якія чаргуюцца між сабой; на шырокіх—фон залацісты з расьлінным орнамэнтам, на вузкіх—фон 2 таноў—бледна-ружовы і бледна-блакітны. На канцох па залатым фоне 3 букеты.

## II. Зарысоўкі Слуцкіх паясоў,

### якія знаходзяцца ў Эрмітажы, у Ленінградзе.

(Зроблены В. Дваракоўскім).

(Пазычаны на час выстаўкі Сэкцыяй Беларускага мастацтва Інстытуту беларускае Культуры).

22. З надпісам „ВЬ ГРДѢ СЛУЦКѢ“ (Інв. № 284/4).
23-24 З надпісам „F. S“. (Інв. №№ 284/5 і 284/7).
25. Бяз надпісаў. (Інв. № 230/6).

## III. Зарысоўкі Слуцкіх паясоў,
### якія знаходзяцца ў Рускім Музэі ў Ленінградзе.
(Зроблены М. Лебедзевай і А. Тычынам).

(Пазычаны на час выстаўкі Сэкц. белар. маст. ІБК).

26. З надпісам: „ВЬ ГРДѢ СЛУЦКѢ“ (Інв. № 1843—183)
27—28 З надпісам „Słuck“ (Інв. № 1827—2 )
29. З надпісам „WOGRADE SLUCKE“ (Інв № 3392—1).

## IV. Зарысоўкі Слуцкіх паясоў,
### якія знаходзяцца ў Смаленскім Дзяржаўным б. Тэнішаўскім Музэі.
(Зроблены М. Філіповічам).

(Пазычаны на час выстаўкі Сэкц. белар. маст. ІБК.)

30. З надпісам „В ГРДѢ СЛУЦКѢ“ (Інв. № 1170).
31. З надпісам „F. S “ (Інв. № 1152).
32. З. надпісам: „ЛЕО МАЖАРСКІИ“ (Інв. № 1150).
33. З надпісам „Słuck“ Інв. № 1168.)
34. Без надпісу. (Інв. № 1164).

## V. Зарысоўкі Слуцкіх паясоў,
### якія знаходзяцца ў Беларускім Дзяржаўным Музэі.
(Зроблены М. М. Філіповічам).

35. (№ 5990[1]). Канец поясу з надпісам Słuck.
36. (№ 5990[2]). Кавалкі поясу з надпісам F. S.
37. (№ 5990[3]). Канец поясу з надпісам Słuck.
38. (№ 5990[4]). Частка поясу без надпісу.

## VI. Фотографічныя здымкі Слуцкіх паясоў.

А. №№ 39—46, якія знаходзяцца ў Эрмітажы ў Ленінградзе (пазычаны на час выстаўкі Сэкц. белар. маст. ІБК).

Б. №№ 47—58, якія знаходзяцца ў Смаленскім Музэі.

В. № 59, які быў на Сельска-гаспадарчай выстаўцы ў Слуцку ў 1908 г. (праца фот. Юхніна).



## VII. Портрэты,

### якія паказваюць, як завязваліся тканыя пасы наогул у XVIII ст.

60. (№ 958). Станіслаў Ельскі, маршалак Ігуменскага павету.
61. (№ $5790^{4}$). Язэп Завіша, маршалак В. Кн. Літоўскага.
62. (№ $5790^{3}$) Ігнат Завіша, Надворны маршалак Вял. Кн. Літоўскага,—1732 г.
63. (№ 1718). Тадзей Багдановіч, Ваявода Менскі, галоўны судзьдзя В. Кн. Літ. ў польскім касьцюме 18 в. з Слуцкім поясам.
64. (№ $5790^{5}$). Антон Бойжэнскі Прокуратар Вял. Кн. Літоўскага, пам. у 1783 г.
65. (№ $6274^{54}$) Антон Жагель, Народны судзьдзя Вількомірскага павету, 1780—1852 г.
66. (№ $6147^{11}$). Францішак Янішэўскі, Пісар земскі ваяводзтва Менскага (рад 10/III--1686 г., пам. 3/III--1743 г.